Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 29 Нядзеля, 28-га Верасьня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр.; у тэксьце — 10 гр.; на апош. стар. — 5 гр.

## Чарговая задача.

Беларускае грамадзянства, якое прызнае прынцыпы рэальнай палітыкі на грунце фактычнага забясьпечаньня ўсіх конституцыйных правоў, належачых беларусам у Польшчы і наагул на грунце ўсіх пастаўленых ініцыятарамі беларускае консолідацыі заданьняў, пачало ўжо гуртавацца

Няма ніякай няпэўнасьці, што аб'яднаньне ўсіх нашых грамадзкіх элемэнтаў, якія здольны думаць у кірунку простага жыцьцёвага рэалізму, хутка можа завяршыцца.

Паўстае чарговая задача, можа самая важная, аднак наўрад ці самая трудная.

Патрэбна нам унутраная нацыянальная дысцыпліна.

Аб'яднаньне, параскіданых па ўсёй Заходняй Беларусі, нашых грамадзкіх сіл павінна быць зроблена шчыра і моцна.

Паасобныя провінцыяльныя гурткі, датарноўваючы ў будучыне сваю практычную працу да варункаў данае мясцовасьці, павінны аднак-жа памятаць, што сэпаратныя іхнія выступленьні прынцыпіяльнага палітычнага характару ня могуць мець месца, бо йначай мы ніколі ня выберамся з таго, што ёсьць, ня зжывём тае недарэчнае гурткоўшчыны, якая праяўлялася дасюль і якая шмат пашкодзіла павазе і значэньню беларускай справы.

Перад намі цікавае пісьмо з Горадна, якое выразна сьведчыць аб прысутнасьці нездаровага момэнту ў галовах некаторых паасобных беларускіх інтэлігэнтаў, якія, ні на што ня гледзячы, гатовы асабістыя рахункі паставіць вышэй за ўсю нацыянальную справу.

Што значыць хворая амбіцыя і ўмешваньне яе ў грамадзкае жыцьцё, аб гэтым хіба што нідзе нельга даведацца гэтак яскрава, як у Вільні, ў якой манія вялікасьці аднае асобы, ідучы па шляху замыканьня справы ў штораз то болей цесныя рамкі, утварыла на нейкі час прыкры грамадзкі крызыс.

З аднаго боку вакол аканчальна збанкрутаваўшае ў палітыцы асобы скупілася цесна ўсё індывідуальна слабое, з другога — замёрзьлі заслужаныя на полі беларускай працы дзеячы, перайшоўшы на палажэньне звычайных грамадзян, каторым імя легіён.

Цяпер падыйшоў рашучы момэнт паставіць заняпаўшую справу на цьвёрды грунт.

Магчыма гэта толькі праз моцны, аўторытэтны нацыянальны цэнтр, які ў будучыне бязумоўна выкуецца сам сабою праз скліканьне зьезду Заходняй Беларусі.

Калі знойдуцца і пасьля зьезду адзінкі беларусаў, для якіх народны голас ня будзе мець вагі й аўторытэту, дык не бяда — адзінкі гэтыя не патрапяць сьвядома ці несьвядома пашкодзіць справе.

Цяпер-жа, калі часовы нацыянальны цэнтр — Час. Беларуская Рада ў Вільні вядзе падрыхтоўку да зьезду, некаторых зьявішчаў проста нельга зразумець.

Як мы даведаліся, ў Горадне, дзе лік беларускай інтэлігэнцыі надта абмяжованы, паўстала ідэя непасрэдна стукацца ў дзьверы цэнтральных варшаўскіх уладаў, каб парушыць свае... горадзенскія беларускія справы.

Гэткія лёкальныя захады ні да чаго солінага не вядуць.

Патрыятызм свае провінцыяльнае званьніцы пара ўжо нам адкінуць.

Калі, напрыклад, у Горадне ёсьць свае нейкія асаблівыя, беларускія адценкі, дык аб іх можна было-б і заявіць на будучым зьезьдзе і яны напэўна агульную ўвагу грамадзянства маглі-б выклікаць.

Але гэтага й быць ня можа. Момэнт вымагае таго, каб паставіць справу разрашэньня бліжэйшых беларускіх патрэбаў у шырокім маштабе, каб плянова дзеяць па ўсіх беларускіх кутках.

Гэтак, напэўна, Часовая Віленская Рада і разумее сваю ролю.

Калі-б паміж паасобнымі провінцыяльнымі групамі й істнавалі тыя ці іншыя праграмныя нязгоднасьці, дык нельга адкінуць спробы—нязгоднасьці гэтыя прымірыць.

Есьць у намечаным Часоваю Радаю пляне адна галіна дзейнасьці, аб якой ніякай спрэчкі сярод беларускае інтэлігэнцыі ня можа быць.

Кажам — сярод інтэлігэнцыі дзеля таго, што гэтая галіна вымагае напружаньня выключна яе інтэлектуальных здольнасьцяў.

Гэтая галіна беларускае працы — нішто іншае, як *прасьвета.*

Якія ў гэтым пытаньні сярод нас могуць быць нязгоднасьці?

Ніякіх. Бо лепей залажыць хоць такую-сякую сетку родных школ па ўсёй Зах. Беларусі, як залажыць хоць-бы й дзесяток беларускіх школ у адным толькі Горадне або на аднэй якой-нібудзь віленскай вуліцы.

Гэта разумее кожны, хто здолен разумець простыя рэчы.

І культурна-прасьветны пункт праграмы Час. Белар. Рады можа быць тым цэмэнтам, які зможа зьліць у адно ўсіх і кожнага, хто на ніве прасьветы так ці гэтак працаваць можа.

А ніва гэтая так заялавела, што для працы на ёй спатрэбіцца могуць ўсе нашы інтэлігэнцкія здольнасьці ў залежнасьці ад таго, што ў гэтай галіне працы кожны з нас зрабіць можа, ў залежнасьці ад асаблівасьцяў кожнае індывідуальнасьці.

І мы лічым за свой вялікі грамадзкі доўг зьвярнуць увагу ўсяе беларускае інтэлігэнцыі Заходняй Беларусі на тое, што чарговаю нашаю задачаю зьяўляецца патрэба ўнутранай дысцыпліны, патрэба аўторытэтнасьці, аднаго для ўсіх, здаровага цэнтру.

Момэнт вымагае таго, каб быць палітычна мудрымі.

---

## Палітычны агляд.

Праз увесь бягучы тыдзень адбывалася гарачая гутарка між Жэнэвай, Парыжам, Лёнданам і Бэрлінам у справе ўваходу Нямеччыны ў Лігу Народаў. З вялікіх дзяржаваў дагэтуль толькі Амэрыка, Нямеччына і С.С.Р.Р. не ўваходзяць у Лігу. А бяз іх, як гэта ад'значыў у сваёй прамове Макдональд на агульным сходзе Лігі Народаў, нельга рахаваць на ўдачу пляну абязброеньня, які апрацоўвае Ліга Народаў. Дзеля гэтага Англія дабілася таго, што пытаньне аб агульным абязброеньні было зьнята з парадку дня цяперашніх сходаў Лігі Народаў і было перанесена на разгляд міжнароднай конфэрэнцыі з учасьцем Злучаных Штатаў, Нямеччыны і С.С.Р.Р., якую маняцца склікаць 15 чэрвеня 1925 г. А праз гэты час Макдональд мае надзею правясьці Нямеччыну ў сябры Лігі Народаў.

Перад Лёнданскай конфэрэнцыяй і ўрэгуляваньнем рурскага і рэпарацыйнага пытаньняў ня было навет гутаркі аб прыняцьці Нямеччыны ў Лігу Народаў. Перш-на-перш Францыя пры Пуанкарэ не магла дапусьціць, каб закраналі гэтае пытаньне ў Лізе, пакуль Нямеччына ня дасьць гарантыі, што будзе спаўняць істнуючыя трактаты. З другога боку й немцы ў аграмаднай сваёй большасьці, асабліва нацыяналісты, спраціўляліся ўступленьню ў Лігу, дзеля таго, што гэта толькі зьвязвала-б ім рукі і пазбаўляла-б той свабоды, якую яны лічаць для сябе патрэбнай у будучыне, каб пераманіць некаторыя, надта цяжкія для іх, пункты вэрсальскага трактату. Але пасьля зьмены ўраду ўва Францыі і Лёнданскай конфэрэнцыі палітычны настрой і ў Парыжы, і ў Бэрліне значна пераманіўся ў бок узаемнага паразуменьня. А што датычыць Англіі, дык яна ўжо даўно старалася падрыхтаваць грунт дзеля ўваходу Нямеччыны ў Лігу Народаў, бо гэтым яна толькі ўзмацуе сваю пазыцыю ў Лізе і на контынэнце Эўропы, дзеля таго Нямеччына бязумоўна будзе яе падтрымоўваць. А Нямеччына, ідучы за голасам розуму, пастанавіла з свайго боку выкарыстаць карысна ўлажыўшаеся для яе пасьля Лёнданскай конфэрэнцыі палітычнае палажэньне і зараз-жа пачала падгатаўляць грунт для свайго ўступленьня ў Лігу Народаў. Апрача таго, яна мае падтрыманьне і пасрэдніцтва з боку розных іншых дзяржаваў. Гэта дае ёй магчымасьць вытаргаваць для сябе лепшыя варункі.

У Жэнэве ўзяўся быць пасрэднікам між нямецкім прадстаўнікам і францускай дэлегацыяй нарвэскі дэлегат др. Нансэн, які пасьля гутаркі з Брыянам езьдзіў у Нямеччыну для асабістых перагавораў з нямецкім канцлерам. А ў Парыжы вядзе перагаворы з францускім урадам ангельскі пасол. Эрыё нядаўна ў гэтай справе сказаў, што францускі ўрад згаджаецца, каб Нямеччына была прынята ў Лігу Народаў без асаблівых абмежаваньняў і прывілеяў. Няма ведама, ці згаджаецца на гэта нямецкі ўрад, які дамагаецца, каб Нямеччыне было дана ў Лізе месца вялікай дзяржавы побач з Англіяй, Японіяй, Францыяй і Італіяй. Адбылося па гэтаму пытаньню спэцыяльнае паседжаньне нямецкага кабінэту міністраў пад старшынствам прэзыдэнта Эбэрта, на каторым былі апрацованы тыя варункі ўступленьня ў Лігу, якія ў форме спэцыяльнага мэморандуму будуць высланы для азнаямленьня важнейшым дзяржавам.

Ангельская прэса лічыць гэтыя варункі зусім магчымымі. Здаецца, што яны не спаткаюць моцнага адпору з боку Францыі. Гэткім чынам, справу ўваходу Нямеччыны ў Лігу

чуткі, ўлада арыштавала шмат выдатных беларускіх дзеячоў. У Дзьвінску апынуліся ў вастрозе амаль што ня ўсе вучыцялі беларускае гімназіі. Ходзяць чуткі аб ліквідацыі беларускага школьнага аддзелу, чаго сільна дамагаюцца так сама расейцы, як і палякі. Палякоў дзеля гэтага ня будзе больш, але што будзе больш бальшавікоў—дык гэта факт. .

### Аб польскім злотым

„Kurjer Polski" друкуе артыкул др. Э. Спэта аб новай польскай грашовай адзінцы — злотым. Аутор даказвае, што злоты — гэта для Польшчы надта вялікая грашавая адзінка.

Ен піша між інш.:

> Польскі банк стараецца ўтрымаць адносіны польск. злотага да даляра як $5.18^{1}/_{2}$ да 1, а гэткім чынам утрымаць на месцы адносіны злотага да іншай сусьветнай валюты. Унутры краю, гэтак сама як і за граніцай курс залатога ў чужой валюце ўтрымоўваецца на вышыні афіцыяльнага курсу.
>
> Але ў адносінах да цаны прадуктаў унутры краю злоты не захоўвае той сілы, якая выплывае, пералічыўшы злоты на чужыя валюты. Гэта ёсьць момэнт надта нядобры, ён вымагае вялікіх натугаў усяго грамадзянства і ўлады, якія павінны ўцяміць, што трэба каб купчая сіла злотага ўнутры краю адпавядала яго вартасьці па курсу.

Далей аўтор разглядае прычыны гэтага зьявішча і робіць гэткі вывад:

> На першы пагляд гэта здаецца драбязой, але з гэткай драбязы складваецца ўстаноўка цаны самых патрэбных прадуктаў, рабочай платы і г. п. — гэта значыць усяго таго, што вырашае кошт вытворчасьці...

Аўтор у канцы дае гэткую раду:

> Найбольш радыкальным спосабам было-б разьбіць наш залаты на 10 адзінак і выпусьціць адпаведныя дробныя грошы. Аднак няма ведама, ці наша ўлада (а тут таксама ідзе аб сойм і сэнат) згадзілася-б зрабіць гэткі рашучы крок. Калі-б гэта было немагчыма, дык трэ'было-б гэты псыхолёгічны момэнт лёгкіх адносін да часткі злотага спыніць інакш, стараючыся прамаўляць да шырокіх масаў грамадзянства. Перш-на-перш трэ'было-б пераманіць нашу дробную монэту, надаючы ёй больш эфэктны выгляд, апіраючыся пры гэтым на чэскіх і аўстрыяцкіх прымерніках. Далей павінна пачацца найбольш шырокая прапаганда ашчоднасьці гэтых дробных грошай. Урад, або фінансавыя ўстановы павінны апавясьціць, што прыймаюцца ашчоднасьці, пачынаючы ад 10 грош. і на гэта выдаюцца ашчодныя кніжачкі.

Кажучы, што гэткіх месцаў, дзе прыймалі-б дробныя ашчоднасьці, трэба, каб было як найбольш, аўтор канчае:

> Трэба думаць, што гэткая шырокая прапаганда павінна прынесьці рэзультаты. Ад гэтага часу бязумоўна ня будзе лёгкіх адносін грамадзянства до 10 грош. Гэта будзе найлепшы спосаб даказаць шырокім масам, што з гэткай драбязы растуць вялікшыя грошы. Калі гэта ўдасцца, дык тады можна будзе казаць аб спыненьні шкоды для агульнага нашага жыцьця, якая выплывае з псыхолёгічных прычын і гэткім чынам паправіць тое ліха, якое нам зрабіў выбар надта высокай грашавой адзінкі. Дзеля ацэнкі нашых грошай гэта бязумоўна не засталося бяз уплыву, а самы факт, што шырокія масы прывучацца да ашчоднасьці, ужо варты ўсіх захадаў.

## ПА СЬВЕЦЕ.

### Суд над майстрам фальшывых грошай у Бэрліне.

Гэтымі днямі ў бэрлінскім судзе разглядалася справа расейскага мастака Івана Мясаедавага, які разам са сваею каханкаю— танцавеяй Мальвінай Вэрнічы падрабляў даляры і ангельскія фунты. Фальшывыя банкноты былі падроблены Мясаедавым з гэткім штукарствам, што, паводлуг заявы судовай экспэртызы, апошнія зьяўляюцца адзінымі сапраўды мастацкімі падробкамі, невядомымі дасюль у судовай практыцы. На судзе Мясаедаў даў кароткі жыцьцярыс з самага пачатку рэвалюцыі. У Бэрліне, дзе ён пражываў у Халензэе, яму нібыто зьявіўся ўва сьне дух яго бацькі, трымаўшы ў руцэ дзесяцьфунтовы банкнот. Пасьля гэтага мастак пачаў падрабляць банкноты. Падчас інфляцыі ён нажыў вялікую маемасьць. Паводлуг вывадаў мэдыцынскае экспэртызы, Мясаедаў церпіць у высокай ступені гістэрыю, — ў яго сям'і былі духова-хворыя. Абвінавачваны хварэў чорнай воспаю, халераю й тыфусам. Падчас грамадзянскае вайны ён быў забраны ў палон бальшавікамі і прысуджаны да расстрэлу. Усё гэта не магло не адгукнуцца на яго псыхіцы. Пракурор трэбаваў строгае кары — катаржнай работы. Аднак-жа суд узяў пад увагу ў поўнай меры паказаньні мэдыцынскае экспэртызы і засудзіў абвінавачванага на тры гады ў вастрог, а яго каханку - танцавею Вэрнічы на 6 месяцаў вастрогу.

# Нябывалая паводка ў Петраградзе.

Паводлуг вестак з Рыгі, над Петраградам праляцеў гураган нязвычайнае сілы. Блізка што ня ўвесь горад заліты вадою ўвышкі да 10-цёх футаў. Гэта—найбольшая паводка, якая калі-нібудзь была ў Петраградзе. Дамы ўздоўж Нявы зруйнованы. Электрычныя драты парваны, тэлефон не функцыянуе, трамваі ня йдуць. Уночы места прабывае ў цемры. Ужо ў працягу некалькіх дзён над местам шалела бура, якая нагнала з мора ў Няву масу вады. Вада перарвала дамбы й падмыла Зімовы Палац, а Неўскі проспэкт абярнуўся ў раку, па якой плаваюць конскія трупы, абломкі вазоў ды іншыя рэчы. На вуліцах часта чуваць крыкі людзей, якія топяцца. Лік ахвяраў не установлены. Прыпушчаюць, што затанула больш як 1000 чалавек. Шмат раненых.

### Прэзыдэнт Рэспублікі — кумам.

Паводлуг паведамленьня з Чэхаславакіі, адна з газэт апублікавала нядаўна аб тым, як прэзыдэнт Масарык зрабіўся кумам у сям'і жыдоўскага настаўніка ў Вялікіх Міхалоўцах. Настаўнік І. Гэрлінгэр, які паходзіць з беднае сям'і, папрасіў прэзыдэнта Масарыка аб падмозе з прычыны нараджэньня чацьвёртага дзіцяці. У сваім прашэньні ён напісаў, што яго жаданьнем зьяўляецца, каб нованароджаны зрабіў гэтулькі сама дзеля свайго народу, як і прэзыдэнт Масарык. Просьба І. Гэрлінгэра была задаволенена: прэзыдэнт паслаў яму 2.000 каронаў і згадзіўся быць хрышчоным бацькаю яго дзіцяці.

### Новая рэлігія ў Японіі „Омото-Кё".

Мінулым летам у Японію прывезены нейкі японец Вані Сабуро, арыштованы пры злаўленьні кітайскім войскам хунхузаў у Манджурыі. Вані Сабуро лічыць сябе прарокам новае сынтоістаўскае сэкты „Омото-Кё", якая некаторымі людзьмі ў Японіі прызываецца „новаю рэлігіяй".

Толькі ў сакавіку гэтага году Вані Сабуро выехаў з Японіі ў Манголію, дзеля пропаганды гэтае навукі. Японцы завуць Вані Сабуро „дурным" або „вар'ятам".

Закладчыцай гэтае сэкты была нейкая Онао, жыўшая ў месьце Оябэ, Кіоцкае прэфэктуры, памёршая тры гады назад у вельмі старым веку. Пра Онао расказваюць, што калі ёй было каля трыццацёх гадоў ад нараджэньня, дык яна мела „яснавідзеньне" і з тае пары яна пачала прaракаваць. Сама яна была непісьменнаю і дзеля гэтага яе прaракаваньні запісвалі іншыя. І нібыто некаторыя з яе прaракаваньняў збыліся, а дзеля гэтага ў яе пачалі зьяўляцца староньнікі. Прaракаваньні былі аб землятрасеньнях, пажарах.

Павучаньні, прaракаваньні і згадваньні Онао запісаны і выйшлі асобнаю кніжкаю пад назовам „Офудэ сокэ".

Спачатку навука Онао нікім не прасьледавалася і новая сэкта ўжо налічвала некалькі дзесяткоў тысяч сяброў. У некаторых местах паўсталі бажніцы гэтае сэкты, як напрыклад, у Токіо, ў Осака і ў Оябэ. Бажніцы гэтыя будаваліся прытарноўваючыся да тыпу галоўнае сынтоістаўскае бажніцы,—пабудованае ў чэсьць багіні Аматэрос або Тэен-шэ-дайджын — духа сонца.

Гады са два назад навука Онао была афіцыяльна забаронена і бажніцы сэкты пазачыняны. Забарона гэтая адбылася дзеля таго, што сярод сэктантаў пачалі зьяўляцца ідэі, падрываўшыя асновы японскае імпэрыі. Але ні сама Онао, ні яе насьледнік Вані Сабуро, як быццам, ня мелі дачыненьня да гэткіх дадаткаў навукі.

Адзін японскі студэнт, хочучы падкрэсьліць шарлатанскі характар навукі, якую пропагуе Вані Сабуро, сказаў:

— Ен-тое самае, што расейскі Распуцін — навет тварам падобны да Грышкі.

## У С.С.Р.Р.

### Абсьледаваньне безработных.

Як піша „Правда" аддзел працы маскоўскае рады закончыў абсьледаваньне і падлічэньне безработных у Маскве. Усяго было намечана абсьледаваць 111.000 безработных і 14.000, якія знаходзяцца на часовых работах. Падчас абсьледаваньня выясьнілася, што часьць безработных выехала з Масквы, а іншыя мелі ўжо заўсёдную працу.

Усяго было абсьледавана 107.661

У сваім „Камуністычным Маніфэсьце" Маркс прынцыпова змагаецца з паглядамі камуністаў, якія кажуць, што соцыялістычная дзяржава павінна заснавацца праз раптоўны пераварот. Іншы соцыялісты, Бэрнштэйн, ясна кажа, што грамадзкая рэвалюцыя ня можа звальвацца на грамадзянства „як злодзей уночы".

А Ленін і Троцкі рабілі вось гэтак, як кажа Бэрнштэйн. Камуністычная рэвалюцыя ў Расеі звалілася на яе, як злодзей уночы, дык і зрабіла з усім грамадзянствам, як злодзей.

Расея зусім была непадгатоўлена, каб прыняць камунізм, як грамадзкую арганізацыю. Усе мы добра ведаем, што расейскі рабочы, таксама як селянін, надта мала ўсьвядомлены, каб сьцяміць прынцыпы соцыялізму або камунізму. Навет Нямеччына, якая з боку работніцкай арганізацыі стаяла надта высока, дзе прынцыпы соцыялізму былі ўсім ведамы, не зрабіла камуністычнага перавароту дзеля таго, што ведала, што грамадзянства ў сваім разьвіцьці яшчэ не дарасло да таго, каб увясьці агульны камунізм. Можна сказаць, што ў Расеі камуністыя дарваліся да ўлады толькі дзякуючы людзкой дурнаце і дзякуючы таму, што неўсьвядомленыя работніцкія ды сялянскія масы не разумеюць ліха, якому яны навучаюць.

Дык вось рэзультаты раптоўнага перавароту, які камуністыя зрабілі ў Расеі, хутка выявіліся. Замест ладу і парадку пачалося бязладзьдзе. Замест улады, якая разумна кіравала-б дзяржавай, запанавалі гвалт і крывавы тэрор. Хто не хацеў сьлепа снаўняць загадаў жменькі людзей, аддаўшыхся Троцкаму і Леніну, таго кідалі ў вастрог, як контр-рэвалюцыянэра, белагвардзейца, а ў канцы канцоў ставілі пад сьценку й расстрэлівалі. Урад, які гэтак урадуе, ня можа быць доўгавечным, ані ня можа даць шчасьця грамадзянству. Дык вось у Расеі тысячы людзей гінуць у вастрогах, мільёны гінуць з голаду, а вялізныя масы сялян і рабочых жывуць, ня ведаючы, што будзе заўтра, дзеля таго, што ў кожны момэнт могуць застацца без работы і без зямлі, якую маюць. Хай толькі паявіцца новы загад радаў, дык ізноў усё, што было пабудована, вывaрочваецца дагары нагамі і зьнішчажаецца. У гэтакіх умовах ніякая дзяржава доўга істнаваць ня можа.

II.

### Роля сялянства ў камунізьме.

Якую ролю ў камуністычнай дзяржаве павінен мець селянін? Усе соцыялістычна камуністычныя сыстэмы кажуць, што селянін такі, які ён ёсьць цяпер, г. зн. маючы свой загон і хату, ня можа істнаваць у камуністычнай дзяржаве. Уся зямля павінна быць дзяржаўнаю, а селянін адтрымоўвае толькі права да свае сьмерці абрабляць яе, але ня так, як ён хоча, а як гэта патрэбна для дзяржавы. Ен ня можа запісаць зямлю сваім дзеткам, дзеля таго, што пасьля яго сьмерці зямля ізноў пераходзіць на ўласнасьць дзяржавы. Таксама ён ня можа збожжа, бульбы ды інш. прадуктаў, якія ён адтрымае з зямлі, аддаць сваёй сям'і або прадаць на свае патрэбы, дзеля таго, што лік спажыўных прадуктаў вызначае яму дзяржава, а лішку, якая застаецца, павінен аддаць на карысьць усяго грамадзянства. Калі, абдзяліўшы ўсё грамадзянства, акажацца, што селянін зашмат аддаў дзяржаве, дык дзяржава гэтую лішку вяртае яму.

*(Працяг будзе).*

